*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзь, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**№ 139 (721)**

Субота, 31 ліпеня 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля




**Жніво-99**

## Брэстчына не зможа завяршыць уборку збожжавых да тэрміна, вызначанага Лукашэнкам

Брэсцкая вобласць не зможа завяршыць уборку збожжавых да 5 жніўня — дня, які Аляксандр Лукашэнка прызначыў для хлебаробаў Брэстчыны тэрмінам завяршэння жніва.

Гаспадаркі вобласці раней за іншыя пачалі жніво, аднак на сёння ўбрана толькі каля паловы плошчаў збожжавых і зернебабовых культур, намалочана крыху больш за 300 тысяч тон збожжа, на вытворчае аб'яднанне хлебапрадуктаў пастаўлена каля 40 тысяч тон — пры плане каля 192 тысяч тон. У Лунінецкім раёне збіраюць толькі па 17—18 цэнтнераў збожжавых з гектара. Крыху лепш справы ў гаспадарках Брэсцкага і Столінскага раёнаў. Напрыклад, у калгасе "Беларуская ніва" на Століншчыне збіраюць па 43,1 цэнтнера з гектара. Аднак сярэдняя ўраджайнасць па вобласці вагаецца ў межах 22—25 цэнтнераў з гектара. Спецыялісты сумняваюцца, ці зможа вобласць пры такой ураджайнасці сабраць неабходны адзін мільён тон збожжа.

Пасля выдзялення гаспадаркам саляркі са спецрэзерву паліўная праблема практычна знята. Затое з'явілася новая — дажджы. Так, калі ў панядзелак уборку збожжавых па вобласці вялі 2653 камбайны, то ў аўторак з-за дрэннага надвор'я на палі выехалі толькі 1524 машыны. 341 камбайн у гэты дзень прастойваў па тэхнічных прычынах — зношаныя машыны не вытрымліваюць нагрузкі і ламаюцца, а колькасць запчастак абмежавана. У такіх умовах, лічаць на сяле, выканаць даручэнне кіраўніка дзяржавы не ўяўляецца магчымым.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## 3 жніўня прадстаўнікі палітычных партый маюць намер правесці паміж сабой кансультацыі па праблеме перамоў з уладамі

Прадстаўнікі васьмі буйнейшых палітычных партый Беларусі сустрэліся з кіраўніком кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Хансам-Георгам Вікам у межах кансультацыйнага працэсу, які распачаўся сустрэчай у Бухарэсце 11—13 чэрвеня. Паводле слоў намесніка старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" Ніны Стужынскай, сп.Вік паведаміў удзельнікам сустрэчы пра наяўнасць у беларускіх улад плану перамоў з апазіцыяй, які рыхтуецца пад асабістым кантролем віцэ-прэм'ера — міністра замежных спраў Урала Латыпава. Н.Стужынская сказала, што вялася размова пра перамовы пры пасрэдніцтве АБСЕ па формуле "6+6+2", дзе па 6 чалавек прадстаўлялі б палітычныя партыі і ўлады, а яшчэ 2 чалавекі — грамадскія арганізацыі. На такіх перамовах асноўнай тэмай мусілі б стаць парламенцкія выбары 2000 года. Прадстаўнікі палітычных партый сустрэнуцца 3 жніўня для нефармальных кансультацый паміж сабой, паведаміла Н.Стужынская.

Паводле слоў намесніка старшыні Беларускага народнага фронту (БНФ) Вінцука Вячоркі, прадстаўнікі апазіцыі выказалі здзіўленне ў сувязі з паступіўшымі прапановамі па абмеркаванні новага Выбарчага кодэкса Беларусі, выказанымі Анатолем Красуцкім, старшынёю камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па пытаннях дзяржаўнага будаўніцтва, мясцовага самакіравання і рэгламенту. "Нацыянальны сход нелегітымны, і таму такія прапановы можна лічыць спробай тарпедаваць ініцыятывы АБСЕ," — сказаў В.Вячорка. Сам сп. Вік адмовіўся каменціраваць вынікі сустрэчы.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ.**

## На внеочередной сессии Верховного Совета будет выработан план по восстановлению в стране конституционной законности

27 июля в Минске состоялось заседание Президиума Верховного Совета Республики Беларусь.

Первый заместитель председателя Верховного Совета Виктор Гончар проинформировал участников заседания о ходе подготовки к внеочередной сессии Верховного Совета, которую планируется провести в сентябре текущего года.

Важнейшим вопросом предстоящей сессии станет обсуждение доклада об итогах пятилетнего правления государством А.Лукашенко и путях выхода страны из системного кризиса. В обсуждении этого вопроса предполагается широкое участие лидеров политических партий, профсоюзов, других общественных движений и объединений, представителей трудовых коллективов. Будет выработан план практических действий по восстановлению в стране конституционной законности.

В порядок дня предстоящей сессии внесены также доклад мандатной комиссии и программа текущей деятельности Верховного Совета.

На заседании Президиума соответствующее решение было принято по докладу "О неотложных мерах по обеспечению жизнедеятельности аппарата Верховного Совета" заместителя председателя Верховного Совета Республики Беларусь Геннадия Терени. Президиум принял решение о назначении Анатолия Лебедько общественным защитником депутата Андрея Климова от Верховного Совета в проходящем судебном процессе.

**Президиум Верховного Совета Республики Беларусь.**

Виктор Гончар на митинге на Октябрьской площади в Минске по поводу окончания 5-летнего срока полномочий президента РБ.
**Фото IREX/ProMedia.**

**Надвор'е**

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць без ападкаў. Вецер паўднёва-ўсходні — 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +9...+14, удзень — +21...+26 градусаў вышэй нуля.

Пр. Амялляна, Івана.
К. Ігната, Любаміра.

**ЛІПЕНЬ**
**31**
'99 **СУБОТА**

Усход 5.21
Захад 21.10
Даўж. дня 15.49

Поўня
28 ліпеня
Захад 9.50
Усход 23.36

ДЗЕНЬ ЧЫГУНАЧНІКА

**ЖНІВЕНЬ**
**1**
'99 **НЯДЗЕЛЯ**

Усход 5.22
Захад 21.08
Даўж. дня 15.46

Апошн. квадра
4 жніўня
Захад 11.09
Усход 23.57

Пр. Абрама, Ільі.
К. Карыны, Густава.

ДЗЕНЬ ДЭСАНТНІКАЎ

85 гадоў з дня нараджэння Т.М.Каламійцавай (1914 — 1994), беларускага дырыжора.

1 жніўня споўнілася 85 гадоў з пачатку (1914) першай сусветнай вайны.

**ЖНІВЕНЬ**
**2**
'99 **ПАНЯДЗЕЛАК**

Усход 5.24
Захад 21.07
Даўж. дня 15.43

Апошн. квадра
4 жніўня
Захад 12.27
Усход —

## ГУУС Мінгарвыканкама перадала ў пракуратуру Мінска матэрыялы для ўзбуджэння крымінальнай справы ў дачыненні да М.Статкевіча і іншых удзельнікаў акцыі 27 ліпеня

Як паведаміў 29 ліпеня на прэс-канферэнцыі намеснік начальніка ГУУС Мінгарвыканкама Сяргей Саланец, кіраўніцтва мінскай міліцыі лічыць, што арганізатары і ўдзельнікі акцыі 27 ліпеня — у Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, у тым ліку старшыня БСДП (НГ) Мікалай Статкевіч, груба парушылі патрабаванні крымінальнага заканадаўства. "28 ліпеня ўсе матэрыялы, сабраныя міліцыяй па фактах парушэнняў, перададзены ў пракуратуру горада Мінска для прававой ацэнкі і, магчыма, узбуджэння крымінальнай справы", — паведаміў С.Саланец. Ён таксама нагадаў, што суд Савецкага раёна Мінска прызнаў М.Статкевіча вінаватым у парушэнні парадку пры арганізацыі і правядзенні шэсця 27 ліпеня (артыкул 167[1], частка 2 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) і прызначыў лідэру сацыял-дэмакратаў пакаранне ў выглядзе 10-сутачнага адміністрацыйнага арышту.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Беларусь становіцца суб'ектам Расійскай Федэрацыі?

Аб'яднанне фінансавых сістэм Беларусі і Расіі фактычна азначае, што Беларусь становіцца 90-м суб'ектам Расійскай Федэрацыі. Такое меркаванне ў апошнім нумары папулярнага расійскага часопіса "Профиль" выказаў дарадчык старшыні Савета Федэрацыі па эканоміцы Сяргей Сільвестраў.

Заява Беларусі аб гатоўнасці да ўвядзення адзінай валюты на базе рубля, на ягоны погляд, з'явілася не вынікам дакладных разлікаў, а, хутчэй, дэманстрацыяй палітычнай волі. Акрамя таго, працэс аб'яднання фінансавых сістэм патрабуе змянення шэрагу эканамічных рэалій як у Беларусі, так і ў Расіі. Адно з галоўных пытанняў — уніфікацыя працэсу цэнаўтварэння. Як падкрэслівае С.Сільвестраў, тут эканомікі дзвюх краін істотна адрозніваюцца. Расійскія цэны фарміруюцца пад уплывам сусветных. Базавыя галіны расійскай эканомікі — здабываючая прамысловасць і ПЭК — арыентаваны на экспарт, і таму ўся эканоміка так ці інакш залежыць ад сусветнай кан'юнктуры і сусветных цэн. Беларусь, аднак, ў значна большай ступені робіць стаўку на ўласную вытворчасць, арыентуецца на рынак Расіі і іншых краін СНД.

Яшчэ адзін фактар — розніца ва ўзроўні харчовай залежнасці дзвюх краін. Так, адзначае С.Сільвестраў, калі ў Расіі ад 30 да 50 працэнтаў харчовага асартыменту — імпарт, то Беларусь, дзе асартымент тавараў некалькі бядней, абапіраецца ў асноўным на прадукцыю нацыянальнага агракомплексу. С.Сільвестраў лічыць, што, калі гэтым вытворцам шляхам увядзення рубля навязаць уласныя правілы цэнаўтварэння, то на перыяд адаптацыі гэта можа сур'ёзна замарудзіць тэмпы развіцця беларускай эканомікі. "Гэта значыць, атрымліваецца, што аб'яднанне грашовых сістэм для Беларусі першапачаткова будзе праходзіць больш балюча, чым для расійскага боку".

**Ягор ЗВОННІКАЎ, БелаПАН.**

## *Дэмакратычная грамадскасць вітае VI з'езд Беларускага народнага фронту "Адраджэньне"*

## 9-працэнтны рост злачыннасці

У першым паўгоддзі 1999 года ў Мінску зарэгістравана 11 744 злачынствы, што на 9 працэнтаў больш, чым за адпаведны леташні перыяд. Рост злачыннасці адзначаецца ва ўсіх раёнах горада, але найбольшы — у Першамайскім, Фрунзенскім і Ленінскім. Аб гэтым было паведамлена на прэс-канферэнцыі ў Галоўным упраўленні ўнутраных спраў Мінгарвыканкама, якую правёў намеснік начальніка ГУУС Сяргей Саланец з удзелам кіраўнікоў асноўных падраздзяленняў сталічнай міліцыі.

На працягу паўгоддзя ў Мінску зафіксавана 5 975 цяжкіх злачынстваў — на 559 больш, чым летась. Узрасла і колькасць наўмысных забойстваў — 78 супраць 70 у першым паўгоддзі мінулага года. Аднак найбольшы рост — на 20,1 працэнта — адбыўся па крадзяжах маёмасці і аўтамабіляў — 30,7 працэнта.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

**Дэмакратыя па-беларуску**

## Суд Маскоўскага раёна сталіцы апраўдаў яшчэ аднаго ўдзельніка акцыі з нагоды заканчэння 5-гадовага тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі

Як стала вядома БелаПАН, суд Маскоўскага раёна Мінска апраўдаў яшчэ аднаго ўдзельніка арганізаванай апазіцыяй 21 ліпеня г.г. акцыі з нагоды заканчэння 5-гадовага тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі.

Нагадаем, што пасля заканчэння акцыі супрацоўнікамі міліцыі былі затрыманыя 53 яе ўдзельнікі. Аляксей Лапніцкі, затрыманы 21 ліпеня супрацоўнікамі міліцыі на вуліцы Маскоўскай, абвінавачваўся па артыкуле 166 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (непадпарадкаванне законнаму распараджэнню або патрабаванню работніка міліцыі).

Сведкамі па ягонай справе выступілі трое работнікаў праваахоўных органаў, праводзіўшых затрыманне. Паводле паказанняў супрацоўнікаў міліцыі, пры затрыманні А.Лапніцкі аказаў актыўнае супраціўленне і нават ударыў аднаго з іх кулаком у грудзі. Пасля чаго да яго былі прыменены спецсродкі — слёзатачывы газ "Чаромха" і наручнікі.

Паводле слоў самога А.Лапніцкага, затрыманне адбылося раптоўна: двое міліцыянераў схапілі яго ззаду за рукі і пацягнулі да міліцэйскага УАЗа. Пры гэтым міліцыянеры нават не прадставіліся і не растлумачылі прычыны затрымання. У міліцыі здзекі над ім працягваліся. Гэта пацвердзіла і судмедэкспертыза, якая зафіксавала ў хлопца шматлікія пабоі.

У працэсе разгляду справы двое з міліцыянераў адмовіліся ад сваіх ранейшых паказанняў, заявіўшы, што яны выконвалі загад аб затрыманні групы парушальнікаў і ім некалі было прадстаўляцца. Суддзя Алена Тройніч палічыла дзеянні праваахоўных органаў недапушчальнымі і вынесла А.Лапніцкаму апраўдальны прасуд.

Паводле звестак БелаПАН, пацярпелы ўжо падаў скаргу ў пракуратуру Маскоўскага раёна па факце ягонага незаконнага затрымання і збіцця супрацоўнікамі міліцыі. Адказ з пракуратуры павінен паступіць да 3 жніўня.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Адкрыта мемарыяльная дошка памяці народнага мастака Беларусі Анатоля Анікейчыка

Амаль праз 10 гадоў пасля смерці народнага мастака Беларусі Анатоля Анікейчыка на доме N 44 па вуліцы Сурганава ў Мінску, дзе была ягоная майстэрня, адкрыта мемарыяльная дошка.

Аўтар памятнага знака — вядомы беларускі скульптар Аляксандр Фінскі — зрабіў выяву свайго настаўніка па Беларускай акадэміі мастацтваў у вобразе віцязя, погляд якога абернуты да майстэрні мастака. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН А.Фінскі адзначыў яркую індывідуальнасць і бурны тэмперамент гэтай каларытнай асобы. Дынамічнасцю форм, арыгінальнасцю кампазіцыі і пластычнага вырашэння адрозніваюцца такія вядомыя працы Анатоля Анікейчыка, як помнікі Мікалаю Гастэла каля пасёлка Радашковічы (Мінская вобласць) і мемарыяльны комплекс "Прарыў" (Ушацкі раён Віцебскай вобласці), фантаны "Вянок" і "Жыццё" ў мінскім парку імя Янкі Купалы і скверы каля Чырвонага касцёла, а таксама помнік Янку Купалу.

**Марат ГАРАВЫ.**

**Асабістае**

## Ёсць у мяне запаветная мара...

Наўрад ці хто аспрэчыць: дажыліся мы з нашым кіраўніцтвам — далей няма куды. Што старыя, што малыя — ва ўсіх аб адным галава баліць: як хоць з большага пракарміцца ды цела прыкрыць.

Але спытайце ў мяне, гаротнай пенсіянеркі, — аб чым я больш за ўсё мару, чаго жадаю ўсёй душой? Мо кавалка каўбасы ці дарагіх цукерак "ад пуза"? Не і не, даражэнькія, памыляецеся. Не скажу, што каўбаса ці цукеркі не ўзбагацілі б мой бедны стол, але не ў іх уся радасць жыцця. А жадаю, прагну я ўсёй душой вось чаго: каб у нас быў кіраўнік дзяржавы, якога б усе — у краіне і за яе межамі — маглі паважаць за розум, развагу, адданасць Радзіме, непадробны клопат пра народ. Тады, калі збудзецца мая (і не толькі мая) запаветная мара — усяго мы даб'ёмся, усё зробім для лепшага жыцця сабе і нашчадкам. Цяпер жа — звязаны рукі, і гонар наш спляжаны, і сорамна перад усім светам, што церпім глум і здзек над сабой.

Хопіць цярпець і моўчкі зносіць крыўду! Давайце ўголас выказваць свае думкі, меркаванні, жаданні. Тады мы пераканаемся, што занадта цярплівых і пакорлівых злу сярод нас зусім не большасць...

Жыве наша любая Беларусь!

**В.ТАРАСЁНАК,**
**інвалід II групы.**

г.Барысаў.

*Статья Алеся Петрашкевича "Как брать Беларусь — через "союз" или тихой сапой?" была направлена в газету "Известия", но редакция ничего не ответила ее автору. Учитывая то, что официальная пропаганда тенденциозно подает историю взаимоотношений России и Беларуси в прошлом и настоящем, "Народная воля" решила опубликовать статью А. Петрашкевича на своих страницах.*

*Алесь ПЕТРАШКЕВИЧ*

## Как брать Беларусь – через "союз" или тихой сапой?..

Как явствует из статьи "Союз нерушимый республик российских", опубликованной в "Известиях" 14 июля 1999 года за подписью Михаила Чулаки, господин из Санкт-Петербурга не без оснований испугался грядущего Союза Беларуси с Россией, поскольку он может вызвать цепную реакцию распада Российской Федерации и "получится в результате СССР-2, но уже состоящий не из 15 союзных республик, а из 24! Дальнейшее предсказать нетрудно...". Видимо, господин Чулаки ставит многоточие, предвидя новую смуту на Руси в начале третьего тысячелетия. Надо полагать, исходя из этого, он и разъясняет читателям, что "союз и единство (русского и белорусского народов. — **А.П.**) — вещи не только различные, но и прямо противоположные!". И это действительно так: союз по-нашему — это когда "мы с братом", а "единство" по Чулаки — это когда "брат меньшой на кухне у брата старшего". Хорошо, однако, что это единство противоположностей господин Чулаки и господин белорусский правитель Лукашенко абсолютно одинаково понимают. И разделяет их в сущности только то, что господин Лукашенко по Чулаки — диктатор и стать Беларуси "республикой в составе" (РФ — **А.П.**) не позволит, а господин Чулаки просто господин из Санкт-Петербурга, доподлинно знающий, как "союз" можно подменить "единством" и по-хорошему вернуть в лоно Российской империи "нечаянно" вышедший из ее состава Северо-Западный край, как образно выражается тот же господин Чулаки.

Рецепт Чулаки прост, как оглобля. Если не "республика в составе", значит, разумной остается та неторопливая политика, которая и проводилась в последние два года: укреплять таможенный союз, экономические связи, взаимно упрощать правила регистрации (непонятно чего — **А.П.**), занятия предпринимательством, покупки собственности, приема на работу и учебу для граждан двух стран. "То есть делать то, — поучает господин Чулаки, — что повседневно нужно большинству населения. А лишний президент, лишнее правительство, лишние депутаты населению не нужны совершенно: более чем достаточно тех, что уже имеем!"

Проницательный читатель конечно же понимает, что господин Чулаки имеет в виду не российского президента и не российских депутатов, и догадывается, что автору вышеназванной статьи ближе и милее не равноправный союз двух суверенных государств, а тихая, мирная аннексия, аншлюс, инкорпорация, как ее ни назови, даже не белорусской народности, не белорусской нации (таковой для Чулаки не существует), а населения бывшего Северо-Западного края с территорией, на которую претендовали еще князья и царь Горох Азиопии как на свою "отчину и дедину" только на том основании, что она населена была православными.

Наверное, господин Чулаки думает, что суверенная, независимая, нейтральная и безъядерная Беларусь только для того и принимала в 1991 году Декларацию о независимости, а затем и Конституцию, чтобы под видом предлагаемого вами тихого поглощения меньшего большим или под видом лукашенковского квазисоюза еще раз безропотно лечь под Россию на новый неопределенный срок. Сегодня даже коню (и белорусскому, и российскому) понятно, что от попыток к изнасилованию или сожительству под наркозом демагогии обоих правителей ничего путного, кроме ублюдка, не родится.

Смею вас заверить, господин Чулаки, что умная, просвещенная, честная, порядочная, культурная, принципиальная и национально сознательная часть, половина или большая часть моего народа и тихое единение-поглощение, и шумный лукашенковский Союз Беларуси с Россией категорически не приемлет, ибо это чревато не только полной ликвидацией нашего государства, но и окончательной денационализацией и русификацией моего народа, т.е. исчезновением государства и древней европейской нации белорусов.

Совершенно очевидно, господин Чулаки, что вы не дали бы столь опрометчивых советов, как лучше и эффективнее брать Беларусь — через авральный, поспешный, торопливый союз по-лукашенковски или тихой, неторопливой сапой через экономическое поглощение с последующим пережевыванием-перевариванием в российской утробе, если бы знали историю Беларуси и ее народа хотя бы в объеме программы приходской школы. Ну право же, стыдно цитировать ваши перлы о том, что "Белоруссия в прошлом не имела собственной государственности: земли, заселенные русскими, но отошедшие к Литве, а затем соединенному Польско-Литовскому государству, постепенно, по мере очередных разделов Польши, переходили к Российской империи, составив Западный край, куда, округленно говоря, входили нынешние Литва и Белоруссия. Генерал-губернатор сидел в Вильне, а вовсе не в Минске...".

Ну что же вы так "округленно" свалили все в одну кучу, господин Чулаки? Разве можно так неграмотно разговаривать с читателями столь солидной газеты, как "Известия"? Да имели, имели белорусы свою государственность; и зафиксирована она в "Повести временных лет" еще до крещения Руси. И держава наша тогда называлась Полоцким княжеством, территория которого охватывала почти всю территорию нынешней Республики Беларусь. Она и свою династию Рогволодовичей имела, Киеву не подчинялась, а Московского княжества, от которого исчисляется российская история, тогда еще и вовсе не было. И в "Слове о полку Игореве" воспеваются трагические для нашего народа события не на Москве-реке, а на реке Менке. Отсюда и Менск (в будущем наследник Полоцка), о котором вы так пренебрежительно отозвались только по той причине, что царский наместник просиживал свои генеральские штаны не в Минске, а в губернской Вильне. Так и Вильня, как вам должно быть известно, город нашенский, белорусский, но, к нашему глубокому сожалению, вместе со всей виленской провинцией, заселенной преимущественно белорусами, отданный товарищем Сталиным советской Литве, которая испокон веков называлась Жамойтией, о чем свидетельствуют летописи и документы. Литва же, литвины, *ліцвіны* — имя собственное народа, народности, а затем нации, которую с тяжелой руки императрицы Екатерины II начнут официально называть белорусами. Отсюда и держава наша литвинская, что простиралась от моря Балтийского до моря Черного и, между прочим, до Можайска, называлась Великим княжеством Литовским, Русским и Жамойтским. И жамойты с аукштайтами составляли в нем число совсем незначительное по сравнению с литвинами. Авторитетный историк С.М.Соловьев в своей знаменитой "Истории России" относит литвинов к славянам. Свидетельствует о том и дипломатическая переписка князей московских с князьями Великого княжества.

(Окончание на 2-й стр.)

